ЯЎГЕН ХВАЛЕЙ



# ЗЯЛЁНЫ ПРАМЕНЬ АЕРУ

# ЯЎГЕН ХВАЛЕЙ



# ЗЯЛЁНЫ ПРАМЕНЬ АЕРУ

ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987





*Гарчыць і салодзіць*
*жыццё,*
*нібы корань аеру.*
*Жаданне даверу...*
*Даверу — як свята.*
*Сэрца разнасцежу,*
*вокны і дзверы —*
*заходзь,*
*зялёны прамень*
*аеру,*
*на досвітку ў хату...*



## ВЕЧНЫ ШОЛАХ ЛІСЦЯ



Прадчуванне зялёнай лістоты,
квету белага над галавой...
Што нам нашы драбніцы-драбноты
перад весняю дзеяй зямной?!

У чаканні стаяць на сугрэве
вербалоз
                і чаромха ля хат.
І калышуць прыцішана дрэвы
не пупышкі — вясны немаўлят.

## ПАЗНАННЕ

Аер прырэчны, ажыннік
золкім наструнены ветрам.
Зніцка мільгне над жытам —
аз,
букі,
ведзі...

Гром-паслязімнік алёсы
перажагнае, абвесніць.
Быццам разгадка лёсу —
аз,
букі,
ведзі...

Жолуд, жаўранак, колас
нам падаюць, як вестку,
свой непадробны голас —
аз,
букі,
ведзі...

Сцежку сваю праторыш...
Так да канца і не зведаць,
як пахнуць
тры кветкі прасторы —
аз,
букі,
ведзі...



Жыты ў валошках і рамонках...
Дубровы... Ландышы ў расе...
Спеў, перагуд, зямлі гамонку
Насустрач вецер мне нясе.

Душа ў бацькоўскім гойным краі
спрабуе крылы буслянём...

Я за падманным гнаўся раем,
нібыта выгнаны анёл.
Сачыў з'яўленне сіняй птушкі,
а ўсё кугала мне сава...

Валошку ў жыце вецер гушкаў,
ажно — хмялела галава.

Валошка?
Не, не папракніце:
яе забыць —
забыць і край...

Спасцігнуў я:
у спелым жыце
расой блішчыць
твой пот,
ратай.

Я зразумеў:
на солі ўсходзіць
надзея кожная твая.
І ў навальнічна-жніўным годзе
ты сэрцам чуеш салаўя.

## ВЕЧНАЕ

...Я пяцікласнік.
Школа ў веснім садзе.
Урок гісторыі.
Настаўніца пра Рым
апавядае...

І раптам
дзверы насцеж —
дырэктар на парозе:
— У космасе...
Га-га-рын!..

Кульнуўся клас на двор —
з настаўніцаю разам.
Усклікі...
Скокі...
Радасць...

Застыў, разгорнуты,
падручнік
нема...

Усмешкаю Гагарына
свяціла сонца з неба...

## ДА МАЎЗАЛЕЯ

Аляксандраўскі сад...
Лісце жоўтае восені,
што злятае з галін,
з неба ранішняй просіні.

Пад нагамі лісты...
Падыходзяць,
становяцца людзі...
Як на споведзі ты —
сэрца стукае ў грудзі.

Аляксандраўскі сад...
Ці адгэтуль
чарга пачынаецца,
калі досвіткам росным
Масква прачынаецца?

Пачынаецца там,
дзе аулы, станіцы і вёскі,
дзе адмералі ногі
крокі першыя,
вёрсты...

Аляксандраўскі сад...
Людзі рушылі
ўздоўж сцен Крамля...
Дзе пачатак чаргі?
Апаясана ёю
Зямля...

## БАЦЬКАЎ КАЛОДЗЕЖ

За галінку
можа памяць зачапіцца,
за былінку ля двара...
Дай жа мне вады напіцца
з поўнага вядра.

Дваццаць год
глядзішся ў неба
чыстым вокам.
Дзе наш гаспадар?

Зазірну ў твой зруб —
глыбока:
зоркамі высвечвае вада.

Раніцою
ці парой вячэрняю
паплывуць кругі:
апушчу вядро —
і зор зачэрпаю
аж па берагі...

## БЭЗАВЫ ГАРАДОК

Ліловы бэз
і белы
па левы,
правы бок...
У сэрцы знабалелы,
мой ціхі гарадок.

Твая ў душы сцяжына —
адтуль,
дзе Нёмна плёс...
І я ў цябе за сына —
сыноў высокі лёс!

Налева —
                бэз ліловы,
направа —
                белы бэз...

«Не кінь на вецер слова»,—
шапчу я сам сабе.
Душы маёй абнова —
твой зорны
майскі бэз...

## НА ШЛЯХУ ДЗІКІХ ГУСЕЙ

Па-над Нёманам у вёсцы Мікалаеўшчына вырасла Ганна Юр'еўна, маці Якуба Коласа, а крыху далей па плыні на хутары Няшота — Бянігна Іванаўна, маці Янкі Купалы.

Над Нёманам,
                быстрым ды вечным,
гудзелі бары, нібы гуслі.
Апоўначы Шляхам Млечным
у вырай імкнуліся гусі.

Выходзілі з хаты дзве маці —
зямлі беларускай абранніцы.

Блукала ў чаборы і мяце
мужыцкая Муза да раніцы.

— Пад стрэхі ідзі,
да людзей...—
Лугі і палі падказалі.
Гаротна дзве зоркі надзей
матулі ў калысках люлялі.

І скінулі ім у двары —
як ведалі —
дзікія гусі
па чыстай пярынцы-пяры
з пахмурных нябёс Беларусі.

## ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Не адшукала Бандароўна,
сівы гусляр
не ўнёс у дом.
І без яе па гладзі роўнай
сплылі вянкі
купальскім днём...
Над ёю ў мроях
шчыравала
Русь Белая,

нібы пчала.
Прыпевам кветка
зацвітала —
«Дзе Купала начавала,
ой, рана на Йвана...»
А сёння —
песняй расцвіла...



Дзяўчынкі,
быццам козачкі,
сваволяць адвячоркам...
— Прыйшла гара
да двара:
дамоў пара...
Бо за той гарою,
гарою крутою...
...Як я мог схавацца?
Маці аж да сёння
кліча —
не дазвацца...
— Сыне,
крупнік стыне...
От жа неўталонік!
Дзе мой апалонік?..

## ВЁСКА ЧАМЁЛЫ

Вёска Чамёлы,
дзе гудуць пчолы
і звоняць чмялі,
дзе вятры з грэчкі
да вузенькай рэчкі
столькі святла намялі!

Выйдзеш на бераг —
у сэрцы шумёлы,
тыя,
 што ў травах
вёскі Чамёлы.

## КРАЙНЯЯ ХАТА

Крайняя хата...
Да вуліцы ўступ.
Душ падарожных прычасце.
Згледжу з гасцінца цябе
за вярсту —
сэрца затахкае часта.

Хто тут ні быў!
Кіразчы, чаравікі...

Песня ўзлятала да столі.
Проста малеча,
нехта вялікі...
Толькі адна
не была тут ніколі,
тая,
што сэрца маё паланіла
недзе ля Нёмана
ці каля пушчы
зорку ў душы назаўжды запаліла
і адпусціла
ў шлях невідушчы.

Шмат пахадзіў я, пабачыў нямала,
меў я набыткі, меў я і страты.
З пыльных дарог
дамоў ты
вяртала,
родная
крайняя хата...

Стрэне бяроза,
як мама ў веснічках,
дуб пастарэлы —
як тата,
гляне ў вочы
півоня нявестаю,
што не прывёў я
ў хату...



Гэта я
ці мой цень
між палёў?
Ахінула мяне сугалоссе
польных птахаў,
чмялёў
у святле залатога калосся.

Слова ў дзюбцы,
як роску,—
«Люблю!»
па сцяжынцы нясе перапёлка...
І здалёку
маці маю
пазнаю —
з поўным зелля прыполам.

Васілёк вунь на дыбачкі
стаў,
як хлапчук,—
дакрануцца б да неба!

Нібы колас,
мой дзень падрастаў
пасярод жытнёвай планеты.

І ці думаў я,
ці гадаў,

што прыйду,
як прыходзіць нявольнік,
і ўдыхаць буду волю
ўсіх траў,
што дарована
сонцам і полем...

І зазвоніць
даспелы авёс:
— Скуль ты,
ці не язычнік ты,
хлопча?

І душа
светлых поўная слёз:
боязь —
вось калыхнуцца
праз вочы...

## ЛЁС

...Яшчэ не поле тут —
аблог,
і камень, пэўна ж,
не адзіны...

З грудзей прарваўся
маналог,
найменне ў ім было:
«Ра-дзі-ма...»
Мацей прамовіў
ці Лукаш?
Ён крушні склаў,
здабыў зярняты:
крыляла сейбіта
рука,
самою вечнасцю
занята...



Дзень прайшоў бязладна,
можна сказаць —
прапашча...
А жаўрук заліваецца складна,
без расінкі ў роце —
нашча.
З досвітку шарага,
з раніцы
кліча яго паднябессе,
дзе светла крыляе абранніца —
песня.

## 7 ВЕРАСНЯ НА МАТЧЫНЫМ ДВАРЫ

Двор...
А на двары
асенні прыжмур вачэй
выглядвае сонца ўгары,
свой роздум
з праменняў тчэ.

Шукаю ад хаты ключ,
што формай нагадвае «7».
І шэпча душа:
«Люблю...»
усім:
вяргіням ля плота,
траве
і яблыкам у расе
(і як іх ніхто не сарве?),
кату, сабаку...
курам, што грэбаюцца ў аўсе.

А з імі —
маці жыве...

Вунь яна з поля
касу нясе,
падобную на лічбу
«7»...

## ВЫРАЙ ЛІСТОЎ

Адлятаюць з клёнаў лісты,
толькі голля ўскалых...
Пасядзім... Памаўчым...
І душу лепш настроім
на слых.

Хай пачуе яна цішыню —
развітальную музыку лісця.
Гэта будзе з табой...
Гэта з некім
было ўжо калісьці...

І далонь з вышыні
клён нам падасць,
залатую да жылкі.
Будзеш помніць
поціск яе,
як дзень незваротны,
пражыты.

Адлятаюць лісты,
нібы птушкі,
пад небам журлівым.
Захістай раўнадушша
ствалы,
жоўты вырай,
як кліч жураўліны...

## ПЕРШЫ СНЕГ

Быццам з майскага саду,
выйшла мама,
стаіць каля брамы
ў святле снегападу...

Яснасць —
да кожнай на твары
маршчынкі,
як да сняжынкі
ў сівізне...

Мацярынскім святлом
азарыла Айчыну —
не заплямце ў душы
той світ нкавы снег...

## СОНЕЧНЫЯ ЗАЙЧЫКІ

Пасля доўгай дарогі
ляжым на чарэні печы
ў палескай вясковай хаце...
Нехта ў сенях клямку крануў —
адвячорак у хату заходзіць...

І ціха сястрычка твая
сінічцы сваёй —
дачушцы
песню на ўслоне пяе:
— Лю-лі, лю-лі, лю-лі —
зайчыкі паснулі
на палочку ў бабулі
і дзядулі...

...Мы толькі вярнуліся
з могілак Бабчына —
ці тая бабулька там спіць,
што назву вёсцы дала?
Тут, у палескай нізіне,
шаўкова-высокай траве —
ніколі не бачыў такіх я кладоў
пад белай бярозай,
як чмель і пчала,
што час заблытаў у травах
навек —
бацька
і маці
твае...

...Аб чым думаем мы?

«Маці раніцаю ўяўляю...
У крапінку сінюю,
белае поле — хуста...

Ледзь толькі світала —
ля печы ўвіхалася,
з агнём размаўляла
рукамі і словам...»

«Бацьку —
вечарам...
Летам — у кепцы,
зімой — у вушанцы...
Прыцемкам заходзіў у хату,
выходзіў...
Вядро браў,
карову паіў,
дровы сек...»

«І толькі мы,
дзеці,
былі паміж раніцай —
вечарам
свавольнымі сонечнымі зайчыкамі.
Хто думаў калі,
што раніца з вечарам
сыдуцца ў ноч
гэтак хутка,
пакінуўшы
нас —
сонечных зайчыкаў —
вечнасці?..»

## ЭЛЕГІЯ НЕПЕРСПЕКТЫЎНАЙ ВЁСКІ

Вечаровая вёска...
Вусціш...
Сон над крынічкай...
Зор у небе — няма.
Беласнежнаю просцінай
адгарэўшыя znічкі
накрывае зіма.

Я маўкліва стаю
на тваім раздарожжы:
хаты ўсе —
як звязаныя хатулі.
На пагост вокны-вочы
глядзяць насцярожана,
хоць душою вазьмі
затулі.

Будзе бегчы жыццё,
спаконвечнае,
звычнае,
каля вёсак, сяліб
па шашы.
Над табой ліхтары
на слупах электрычных,
быццам свечкі,
гарадь у цішы...

Снег ідзе...
Зноў зіма
ахінае прасторы...
Зор у небе — няма.
Спадзяешся на зоры...



На селішчы буяў калісьці бэз...
Што ж сталася?
Прагрэс?..
А дзе ж крынічанька,
над якою
стаяў я з табою,
як ясень з вярбою?
Азерца было —
з якога канца?
З разгону ў ваду мы
давалі нырца.
Алешнік тут рос
між чароту, імхоў —
«у вайну» гулялі,
тут быў наш схоў.
Яшчэ рачулка цякла недалёка,
якую звалі чамусь
Магілёнка.

Лавілі мы ў ёй
уюноў, ментузоў
у цамбравінах
і ля кустоў.
Стаяла тут сябрава хатка —
падмурак цяпер,—
ля плота маліны —
бяры напавер!
Хоць, праўда,
цётка Хрысціна,
бывала, нас і «хрысціла»:
— Каб твой раточак —
чырвоны гадочак...
Каб солад той
не чуў за губой...

На селішчы калісьці бэз буяў
над трэлі, пераліvы салаўя...



Сняжынкі...
Ці водсветы зорак
над лугам
крушынна-ажынавым?

Пранізана дзіўным узорам
душа —
перасветам сняжынак.

Над лесам,
над поймай,
над полем
гады пунсавеюць калінай.
Зямля нас трымае ў прыполе,
як маці ў зажынкі
калісьці...

Ды вось гэта вешчае:
«Хопіць!» —
Вунь неба само — парашут...
Адчайна гайдайце душу,
сняжынак раскрыленых стропы.

Бо толькі ў палёце мы —
людзі,
усе мы кіруем да зор...
Зямлю ж,
як маці,
мы любім —
ў хусцінцы з блакіту
азёр.

## ГАНАК

Выходзім,
прыходзім...
Вечар і ранак...
Ляцім, прылятаем...
Страчае нас
ганак.
...Зязюляй лістота
пракукавана.
Спавіты, з раддома
ты выплыў
на ганак.
І нехта ў маленстве
даў на «абаранак» —
куляўся ў слязах ты
да маці
праз ганак.
У хаце вяселле
чыё адгуляна?
І госці расходзяцца —
выйшлі
на ганак.
Спыніўся,
стаіш ты ў журбе ля паркана —
каго там у чоўне
адносіць за ганак?..

## СНЕГ,
## ЯКОГА НЕ БЫЛО

Снежань...
Пярэдадзень Новага года.
А сонца з-за хмар,
як пальцамі,
промнямі кратае клубні.
Сумелася сонца:
не верыць —
ажно пацяпнулася...
Барозны-маршчыны ў промнях
яснеюць.

...Я сам сябе адчуваю
істотай касмічнай
на гэтай стаптанай маленствам
зямлі:
іду па гравійцы,
як па сцяжыне далёкай планеты,
туды,
дзе людзі,
нібыта прышэльцы,
перакопваюць поле бульбянае...



Прыстанеш ціха ля парэнчы,
павойкай одум абаўе:
жыццё тваё,
як гэта рэчка,
сплывае хваляю.
Сплыве...

Тугі струмень сярод кустоўя,
падказвай мне,
як трэба жыць...
Як ні вазьмі,
яно пустое,
багацце тое,
якім знаёмы твой
дрыжыць...

Каменьчык з дна
адшліфаваны,
і сінявы паднебнай
даль,
і плёс,
ляском акаймаваны,—
маё багацце,
мой крышталь...

## КРУГІ ГАДОЎ

Кругі гадоў
над Нёманам,
над поймай...
Світае мой —
каторы? —
белы май,
што салаўём
чаромхавым і помны...
І не ўцячы
у зелянцовы гай...

Кругі аблок...
Кругі дуброў вячыстых...
Буслоў кругі
стракаты лічыць луг.
Кругі віроў
ракі дзяцінства чыстай.
Раблю яшчэ адзін над імі
круг...

## ЖАЦЕРАВА

*Трыпціх*

Просты будзь, як калыханка маці.
Дбайны будзь, як сейбіт і ратай.
Нават калі ўсё на свеце страціў —
заклінаю: гэта не аддай!

*Васіль Зуёнак*

### 1. ГЛЫБОКІЯ КАРАНІ

Мой продак далёкі,
хто ты?
Ні паставы тваёй,
ні аблічча...
Ды бачу:
корань-руку
працягвае дрэва,
якому сотні гадоў...
З пясчанага ўзгорка —
спрасаваных стагоддзяў —
той корань павіс нада мною,
такі пакручасты,
у жылах увесь,
у мазалях-бугрынах...

І я зразумеў,
я выгукнуў:
«Дзень добры,

мой продак далёкі!
Цябе я пазнаў
з тых глыбокіх пластоў...
Ты быў ратаем
на гэтай зямлі:
такіх мазалёў
ні ў кога не знойдзеш.
Не з панскага роду.
Абмеццем не стаў ты.
Ты сеяў і жаў.
Ты сеяў надзею,
а яву зжынаў —
мізэрнае жыта
з крывёй напалам.
Які ты настойлівы быў!
Штогод —
кругазварот,
штогод —
круг пякельны...
А ў сэрцы вера,
вялікая вера,
як сонца,
ўставала:
«Не толькі сеяць,—
жаць буду!»
Жаць! Жаць! Жаць!
Жыць! Жыць! Жыць! —
серп паўтараў адно,
як малітву штодзень гаспадар...

...Таму не маглі
продкі назваць
селішча —
вёску ў полі маю —
інакш, як
*Жацерава.*

## 2. МАЛАНКІ НАД ПОЛЕМ

Маланкі над вёскай...
Маланкі над полем...
То накрыж,
то проста,
як дзіды,
ляцяць...
Да роднага поля
хінецца калоссе,
як дзеці да маці ў хвіліну бяды.
Маланкі жагнаюць...
...— Завуць як?
— Жывіцкі Ігнат.
— Даўно тут жывеш?
— З дня нараджэння.
— Чаму не ваюеш?
— Бязногі,
з пратэзам, бач, я.
Яшчэ з грамадзянскай...

— Ну, вось што...
Нам, партызанам,
патрэбен хлеб.
Там раненыя
паміраюць сябры...
Вунь поле жытное...
Чыё яно будзе?
— Маё.
Жывіцкае —
так называюць у вёсцы.
— Сажнеш каласы...
— Фашысты пільнуюць.
— Як цемень надыдзе.
Тайком...
Штоноч па снапку...
Тут рызыка трэба...
— Ну, што ж...

...Штоноч — па снапку!
Штоноч —
па снапку!
Паўзком на калені...

На шостую ноч
фашысты злавілі...

— Ві гайсэн...
Зваць как?
— Жывіцкі Ігнат.

— Ест хто ты?
— Жывіцкі.
Ад слова «жывучы».
— Ты ест партызанэн!
— Я ёсць чалавек,
што народжаны жыць!
Жывіцкі.
Жывіцкі Ігнат!

Паставілі каты
спіной да калосся...
Маланкамі ў сэрца
чэргі ўпіліся...

Ігнат паваліўся,
як каліўца жыта...

...Устала калоссе
насустрач маланкам...
Паверыла поле
ў сілу сваю.

## 3. ПЕРАПЁЛКА Ў ЖЫЦЕ

Перапёлка прысніла,
што жыта не стала —
не калоссе шуміць,
а шамрэе папар,
удавее зямля...

І не крыкнеш,
не клікнеш нікога:
— Жаць пара!
— Жаць пара!
— Жаць пара!
А крычала ж яна
тут спрадвеку,
у жыце,
калі жнівень даспелы
прыходзіў з сярпом
пакланіцца ў пояс
калоссям жытнёвым...

...Лета... Час жніўны...
Над хатаю —
чуйная тэлеантэна.
Здаецца, што гэтая
тэлеантэна
рэха злавіла
розных часоў —
з'яднала ў дыханне
адно:

«...не з панскага роду...
Ты сеяў і жаў...
Ты сеяў надзею,
а яву зжынаў —
мізэрнае жыта
з крывёй напалам.

А ў сэрцы вера,
як сонца,
ўставала:
— Не толькі сеяць,—
жаць буду!
...Таму не маглі
продкі назваць
селішча —
вёску ў полі...
інакш, як
*Жацерава...»*

«...Ігнат паваліўся,
як каліўца жыта...»

«...і не крыкнеш,
не клікнеш нікога:
— Жаць пара!
— Жаць пара!
— Жаць пара!»

...Перапёлка сон сніла...
у жыце даспелым,
і світанак над полем
валошкай сінеў...



# ПРАДЧУВАННЕ МЕЛОДЫІ

## ЯЗМІН

Стаю ля белазорых я кустоў —
праз столькі год вярнуўся я сюды.
І белы дым язміну малады
хвалюе зноў, хвалюе сэрца зноў.
«Люблю» —
гучыць праз белы дым,
праз песню лета
і гады...
Пяшчотны мой, чароўны успамін —
язмін, язмін...

Нясмелымі губамі я шаптаў
тваё світальна-роснае імя,
як дакранаўся да пялёсткаў я...
А сэрца трапяталася,
як птах.

Мне белы сум застаўся назаўжды...
Нашто вініць,
пытаць цяпер каго?
Калі з кахання светлага майго
той не сплыве язміну белы дым...
«Люблю» —
гучыць праз белы дым,
праз песню лета
і гады...
Пяшчотны мой,
чароўны успамін —
язмін,
язмін...

## АНЮЦІНЫ ВОЧЫ

Якімі былі вы,
Анюціны вочы?
Рознымі, кажуць,—
уранку, упоўдзень, увечар і ўночы...

Бэза-ліловымі ўранку —
у час развітання з каханым на ганку.
Сіне-чарнічнымі ўпоўдзень —
свяціўся загадкамі-чарамі позірк.
І неба-зорнымі ўвечар —
чакалі з каханым жаданай сустрэчы.
А ўночы —
палалі таемна-зарнічна вочы...
Кажуць, што мачыха-ведзьма
падчарыцу пакарала —
і ў кветкі
Анюціны вочы зачаравала.
Можа, і праўда:
гляньце аднойчы
на кветкі-браткі —
Анюціны вочы —
уранку,
упоўдзень,
увечар
і ўночы...



Гляджу на сонца вечаровае,
яно — як дзьмухавец на снезе.
І хоць пейзаж той зачароўвае,

няма гармоніі...
Ты — недзе...
А ты ж была, як гэты іней,
што на бярозе —
на нявесце...
Світае вечар снегам сінім.
Няма гармоніі...
Ты — недзе...
А дзе?
І сам не разумею...
Іду адзін па санным следзе.
І снежны куст, нібы лілея.
Няма гармоніі...
Ты — недзе...

## УСПАМІН ПРА ЦЯБЕ

1

Калючая сняжынка...
Ты —
ўва мне.
У душы маёй ты растаеш,
як памяць...
...Далёкі час...
Заслонай снег...

А вочы, як агеньчыкі
праз замець...

2

Святло і музыка ў зале...
І зноў я прад табой — нямы...
Ну хоць бы ты мне падказала,
куды мне дзець сябе на міг?
Ў руцэ — букецік кветак весніх,
а ў сэрцы — хвалявання шторм...
І як пралескі мне паднесці,
каб не заўважыў аніхто?
Як падысці к табе патайна?
Бо хлопцы, пэўна, засмяюць,
што я такі сентыментальны,
якога птушкі заклююць...



Цікуюць дзяўчынкамі флёксы
з гародчыкаў перадасенніх.
Вунь тая пунсовая —
Лёкса,
а гэтая белая —
Ксеня.

Саромеюцца, як зямлячкі,
якіх без мяне нарасло.
— Дзень добры,—
кажу,— дзівачкі!..
І больш не знаходжу слоў...

## МАРГУХА

Уток... Ніты... Аснова...
Вавёркаю — чаўнок.
Як з гукаў тчэцца слова,
так з нітак — палатно.

Такія тут узоры,
як назвы родных вёсак:
Дуброва, Яцвезь, Зорная,
Паперня, Лугча, Лосак.

А ёсць яшчэ —
Маргуха...
Хоць раз ты мне маргні,
вясковая прысуха,
не вочы — зор агні.

І я гатоў застацца —
не госць, не гаспадар...

Ў такую б закахацца
і сэрца ёй аддаць...

І стукаюць хай бёрды...
А шчасце не міне:
вясёлка з поўным вёдры
пранесла ля мяне.



Ты прадвесне тое шкадуеш —
незваротная маладосць...
Ты не думай, што я гадую
ў сэрцы сцюжна-зімовую злосць...

Замуціць жа крыніцу лёгка...
Пры сустрэчы на нейкі міг
апускаем — не суджана лёсу —
мы з табою вочы ўдваіх...

А ў вачах тваіх —
зыркіх маланках —
я навекі адбіцца хацеў.
Будзе сум мой лунаць беражанкай
над вадой, сярод неба і дрэў...

Прылятаць мне з дарог дадому,
сцежкай жытняй хадзіць табе...
Адбалелае пакрыёма
адыходзіць ціха ў журбе.

## АЭРАПОРТ «ДАМАДЗЕДАВА»

Я не ведаў,
і ты не ведала,
што падорыць нам «Дамадзедава»?
...Бегла так электрычка — як лань.
Сэрца ж ціха шаптала: «Ад-стань...»
І свяціўся той слоўны наіў,
нібы ўлетку белы наліў.
Вочы ў вочы — слязінка, сляза,
як на травах гаючых раса.
Разумелі бярозы і вязы:
«Ім гадзіну б пабыць яшчэ разам...»
Дзве душы абдымала ўжо ростань...
«Што ж, бывай!..» —
як сказаць нам няпроста.
Бегла так электрычка — як лань,
сэрца ж ціха шаптала: «Ад-стань...»
Вось яна, апошняя станцыя...
Што?
Закончана рэгістрацыя?

Ну, няўжо ўпрасіў я лёс,
каб не ўзяў цябе самалёт?
Дзіва з сэрцам тваім тварылася:
птушкай дзікаю злоўленай білася...
Ты не верыла, ты не верыла —
на пасадцы стукала ў дзверы.
«Пачакай!» — самалёт нібыта прасіла,
а сэрца шаптала: «Хутчэй ты на крылы!»
А сэрца да сэрца іррвалася
праз рокат, праз шум, галасы,
нібы самалёт да аблокаў
з узлётнае паласы.



Куды ўцяклі вы,
                    нашы дні? —
на ўсіх вятрах стаю, пытаю...
І толькі чую:
«Вас кахаю...»

Два словы —
                    промні ў цішыні —
гарацц не ў часе, не ў прасторы,
а спапяляюць сэрца мне.

Вас лёс занёс пад сонца ў горы,
мяне — сюды,
на белы снег.

Так і стаім, і толькі ветру
мы давяраем голас свой.
На столькі тысяч кіламетраў
душа —
напятаю струной...

Куды ўцяклі вы,
нашы дні? —
на ўсіх вятрах стаю, пытаю...
І толькі чую:
«Вас кахаю...»
Два словы —
промні ў цішыні...



Сустрэліся ў дарозе...
Праз накіп зімовых снягоў,
праз белы агонь вясновых садоў,
праз летні сонечны жар
і ліставейны асенні пажар
цябе разглядаю...

А ты —
ні слова,
ні згуку,
ні руху...
Праз што ты глядзіш
на мяне?..

## АБУДЖЭННЕ

Тапіўся я...
І вось бяда:
Куды ні глянь —
усё вада.
Ну, хоць бы кусцік,
хоць аер...
Няўжо апошні ўдых цяпер?

І вось — о цуд! —
адкуль саломінка? —
плыве, як мара, да мяне...
Ну, як паслаў мне лёс яе,
з якой прытоенай завоінкі?..

...Прачнуўся я.
Твой сон салодзіцца
ў лятунках светласці, дабра.

Любіць вось так,
як за саломінку
хапаешся ў апошні раз!



Цень мяне,
былога,
ходзіць ля твайго парога.
Хата, двор і сад —
як вякі назад...
Той жа месяц ясны,
каля весніц — ясень.

Цень мой ты не ўбачыш,
пэўна, не пачуеш,
як наўзрыд заплача,
стане, заначуе.

Пад шчаку пасцеле
жменю жаўталісцця
і сасніць,
як ценем
быў тваім калісьці...

## СТЫХІЯ

*Споведзь кахання*

...шар зямны, што ад стыхій знямог.
*Пімен Панчанка*

Зялёны калаўрот —
Зямля —
нас па адной арбіце кружыць...
Ды толькі вейкі я прымружу —
як чую: плача немаўля,
заспетае стыхіяю знянацку
на невядомай лёсу паласе...
Пакутны век куды яго нясе,
няўжо шпурне малечу,
быццам цацку?
Няўжо гатовы замахнуцца
на спаконвечны гэты цуд?
Маёвы сад у шэры груд —
і сэрцу больш не адгукнуцца?
А толькі магма —
без паветра —
ці заімшэлы горкі друз?..

Я пратэстую,
землятрус,
які б ні быў —
ваенны,
з нетраў...

Я сам табе прысуд пішу
святой стыхіяю кахання:
яна — маё выратаванне...
Да сонца ўзнось маю душу!

* * *

Якою сілай незямной
занесла нас,
дваіх,
сюды?
Рабіннік над Масква-ракой...
І твой уздых,
і мой уздых...

Той вераснёвы зарапад,
кляновага лісця свячэнне...
І ўсё было —
як прысвячэнне
табе,
узбечка Мухабат.

* * *

...Наш першы курс.
Світанкі...
Ночы...
Ракі ў граніце берагі.
Яшчэ быў воблік дарагі:

смоль броў і кос,
чарніцы-вочы.
Прызнанне-споведзь
пудкіх сэрцаў...
З чым параўнаць я мог яго?
Так запалаюць,
як сустрэнуцца,
бяроза ў цемры і агонь.

* * *

Нас несла ў высі, несла ў далі,
што свет забыты быў ушчэнт.

І раптам страшнае —
Ташкент...
Пачулі ў дзень той, прачыталі.
Пра горад ведаў я нямала,
дзе землятрус быў,
каменяпад.
А слова,
імя
Мухабат
ў мяне на вуснах расцвітала.
Ты мне расказвала: яно
«каханне» значыць па-ўзбекску.
Такое блізкае —
даўно
яго я вымаўляў, здаецца.

І вось — Ташкент...
Нібы вулкан,
пад ім прачнуўся.
«Родны го-рад...» —
шаптала мне ты,
слёзна, горна...
У руцэ маёй —
твая рука...

А тут, нібы на голаў снег:
прынеслі позву ў войска мне...

* * *

Раскочваю гадоў сувой,
з пары далёкай чую,
той:
«Чаму ж нам лёс калючы выпаў?
Што мне рабіць?»
«Адзіны выбар...
Цябе чакае горад твой...»

* * *

Я помню вечар непагодны
і тое з штэмпелем пісьмо...
«Як служыцца табе, салдат?
Бы птушка Фенікс —
наш Ташкент...

Слядоў не знойдзеш страшнай
драмы...
Ну, што сказаць табе яшчэ?
Я тут...
я тут...
выходжу замуж...
Узбек ён...
Звацъ яго Пулат.
Бывай навекі!..
*— Мухабат —»*

* * *

Я кляўся: «Дзень той не забуду!..
Але завошта я віню?
Падзякуй сённяшняму дню,
яшчэ таму —
што прыйдзе, будзе.

* * *

Я прызнаю такі агонь,
зямное гэткае пламенне,
каб закаханыя ў здзіўленні
пылалі вечна ад яго.

Любві агонь хай будзе з намі,
а мнагабальныя штуршкі
у час прызнання трапяткі
хай толькі сэрца адно знае!



# РОСЧЫРК БЛІСКАВІЦЫ

## ВЕТЭРАНЫ

Два ветэраны —
на ўсю вёску:
і медалі —
нібы званы
па тых,
чый цень і адгалосак
усё ідуць дамоў з вайны...

О дзядзька Саша
і Мікола!..

Бязрукі — ты...
Бязногі — ён...
Свет пакаціўся б, нібы кола,
у бездань пракаветных дзён...

Жыццю з жыццём — не размінуцца!
Вы смерці
                посах не далі.
Да вас завейны дзень мінулы
прыходзіць часта ў шынялі.

І вы з пагоднымі вачамі,
такія ж, як здавён былі,
стаіце ў цэнтры між сяльчанаў,
нібыта ў цэнтры ўсёй Зямлі.

## САСНА З ЧОРНАЙ РАНАЙ

Гэтая сасна — сведка спалення
сядзібы Дзяржынскіх фашысцкімі
захопнікамі ў чэрвені 1943 года.
*З надпісу на сасне ў Дзяржынаве*

Табе
        і народу баліць,
з чорнаю ранай сасна...

Боль твой зямны не суняць,
жывіцаю не загаіць!

Дзе Казімір,
дзе Люцыя?..
Апошніх,
як — з магікан,
іх расстралялі чужынцы...

Дым гэта
ці гэта туман?
Што там засланяе блакіт
і ходзіць сцяжынай ляскою?

Камені ўстаюць за сасною,
як помсты святой кулакі...

## СЛЕД СЛЯЗЫ

След слязы
на пажоўклым лістку
пахаванкі
(Ты помніш, Айчына?..).

...Белы сад пацямнеў:
на галінках вуглі —

не суквецці —
плывуць прад вачыма...

Ты знямела,
бабуля мая...
— Кот-ра!..
Кот-ра!..—
ґукала зязюля.
Ты не чула...
Упала слязіна твая —
апякла той лісток,
нібы куля.

Засвістаў і салоўка —
суцешыць хацеў:
несуцешныя трэлі выводзіць...
— А мой жа ты,
сын-ку!..—
твой плач паляцеў
у мой свет,
у мой дзень,
у гады,
у стагоддзі...

## Я ШУКАЮ ВАС...

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

*А. Коршак*

На зямлі былой Усходняй Прусіі,
дзе з раллёю напалам свінец,
я шукаю вас,
паэты Беларусі,—
Коршак,
Мілюць
і Крывец.

Бачу вас жывымі
і шукаю
між травы, пасёлкаў і ракіт...
Плач матулін,
а ці голас кані
празізаў душу,
нібы блакіт?

З Капыля,
з-пад Скідаля,
Карэліч
я прывёз чаромхі, бэзу пах:
вы ж зусім-зусім не пастарэлі —
гэты пах вам сніўся па начах...

З сэрцаў юных у радкі заходзіў
і хмяліў, хто дакранаўся іх...
«От і ўсё...»
На дваццаць пятым годзе...
На трыццатым...
Не жыццё — а міг...

Я і сам у маладым узросце.
Ваш равеснік. Зразумела мне...
Хлопцы, адгукніцеся, дзе ёсць вы
на апошняй выклятай вайне?..

На зямлі былой Усходняй Прусіі,
дзе з раллёю напалам свінец,
я шукаю вас, паэты Беларусі,—
Коршак,
Мілюць
і Крывец...

## У БУХЕНВАЛЬДЗЕ

Бухенвальд — літаральна букавы лес.
*З нямецкай*

Я быў у тым букавым лесе,
дакладней — у пекле:
ён па вайне, нібыта ў вайну...

Я чую плач немы:
дзіця адбіраюць у Тэклі.
І яно, немаўля,
ці мае віну?
Вядуць падстрыгаць
і Вука,
і Домну —
маўляў, на шпацыр іх павядуць.
І можа,
Эдзіт,
ты паедзеш дадому? —
так блізенька Францыя —
вокам зірнуць!
Не далей і Польшча...
І можа, ты,
Лешак,
апошні раз цягнеш
конны драпак...
І будзеш ізноў сярод родных алешын
засейваць зямельку,
саджаць і капаць?
І ты,
немецкі Ёган, асветнік,—
тут побач жа
Гётэ і Шылер
жылі...
Няўжо яшчэ будзе час і для ведаў? —
ты верыш у гэта,
як вераць зямлі.

...Бухенвальдскі набат
б'е кувалдай у скроні:
«Ніколі!
Ніколі!
Ні заўтра,
ні сёння!..»
Кладзецца на сэрца
боль глыбаю-каменем:
«Згарэлі,
згарэлі мы ў газавай камеры...»

І думка маланкай сягае праз час:
цяпер на Зямлі —
мегатонны запас!..

Спыніцеся,
людзі!
Пакуль не позна...
Бо ўсё ў невядомасці кане,
калі стане
Зямля
газавай
камерай...

## ЯБЛЫНЯ МАРЫЯ

Пасадзіў яе ў садзе на тым месцы, дзе карнікі спалілі хату разам з жонкай Марыяй — 26 гадоў; сынам Міхаськам — 4 гады; дачушкай Вольгай — 2 годзікі; сынам Янкам — 4 месяцы. Назваў яблыню Марыяй...

*З расказу М. С. Ясючэні, былога партызана, жыхара вёскі Доктаравічы Капыльскага раёна*

— Як жывеш ты,
яблыня Марыя? —
Кожны дзень пытаю на двары я.
З хаты выйду... Да яе іду,
а пасля — па дровы, па ваду.
Хата новая — даўно старая.
Яблыня Марыя — маладая:
стройны стан — сярэбраны зімою,
рукі-голле — ў белені вясною...
Побач тры атожылкі-прàменьчыкі:
большы,
серадольшы,
самы меншы.
Падыду — у роспачы спынюся
і ад прыгажосці — здрыгануся.
Чуў: шаптала яблыня —
«Люб-лю...»
Браў адчай, падносіў мне пятлю...
Ды ў імгненне яблыня ўставала —
жыць і помніць вечна загадала.

Хто ж тых злыдняў —
з пекла а ці раю?—
памяццю пякельнай пакарае?
Хто,
як я,
пакажа ўсяму свету
сэрца, што абвуглена,
пад цветам
і раскажа пра маю бяду?..

Ціха з саду ў хату я іду
і слязу — гаручую —
на распал нясу:
дровы
удаўцовы
не гараць —
сырыя...
Дзякуй за слязу,
яблыня Марыя!

## ДУМЫ

*Леаніду Галубовічу*

Каліны белы цвет,
надзеяй — чырвань гронак...

Спяшалі думы ў свет,
як я ў тваё
Вароніна.

Народжаныя днём
і ў ночы навальнічныя,
яны былі агнём,
вадой былі
крынічнаю.

Адтуль былі яны,
дзе сам народ
абжыўся,
дзе дубу без сасны,
як полю —
жыць без жыта...

Дзе бацьку ў сне дасюль
канвойны будзіць вокрык,
хоць дома,
тут, за вокнамі,—
хор салаўёў, зязюль....

Дзе маці давідна —
той успамін,
як чэмер —
бяжыць,
бяжыць адна
дзяўчынкай з Калдычэва...

## БАЛАДА ВЯРТАННЯ

*Памяці А. П. Музычука*

Міхаіл...
Васіль...
Арцём...—
пахавальныя прыйшлі у дом.
Слёзы, быццам боб,—
з матуліных вачэй...
Заставаўся ў маці
Аляксей...
«Дзе ты, дзе,
малодшы мой сынок?
Вецер, кулі аднясі убок,
ад агню накрый густым дажджом,
снежным заслані тугім крылом...»
Чарадзейны матчын быў заклён,
бо з-пад Курска да Берліна
дойдзе ён.
І прапахне дымам некалькіх франтоў,
і адпомсціць ворагу за сваіх братоў.
Пранясе ў сэрцы словы праз вайну ўсю:
«Я люблю вас, мама,
і да вас вярнуся...»
Расцвіце салютамі
пераможны май...
Вось баец і дома...
— Родная, страчай!..

Да цябе, матуля, я даўно іду...
Веснічкамі рыпнуў —
сэрца не стрымаць...
Толькі ў хаце ціха,
быццам на бяду...
Падышла суседка, пераводзіць дух:
— Там... яна... у лесе...
у бла-ка-ду...
Узышоў на матчын ганак,
сеў
і глядзіць на сонца Аляксей...

## КАЛІНІНГРАД

Ён — горад
з апошніх ваенных былін...
Стаіць на ўзбярэжжы
роднай зямлі.

Балтыйскага мора
лагодны пагляд
на горад, які яму
сябар і брат.

Лістотна тут дрэвам —
не горад — а сад.

А ружы сцякаюць
крывёю салдат.

Па вуліцах пройдзеш
вячэрняй парою —
імёны герояў,
імёны герояў...
Яны размаўляюць
з табою, са мною —
«А што тут за нашай
спіною, вайною?..»

Жывуць тут матросы,
жывуць рыбакі
і нават з-пад Нёмна
мае землякі.

І я, пасланец
беларускіх бароў,
адчуў тут,
што гэта —
горад сяброў.

Тут дружба —
                як песня,
тут дружба —
                як дар.
Яна — як святлісты
балтыйскі янтар.

## УСМЕШКА САМАНТЫ СМІТ

Стоп-кадр.
На тэлеэкране —
усмешка Саманты:
застыла, як сонца ў вадзе.
Дзяўчынка-лілея,
сама ты
ці думала аб бядзе?

Што думкі твае былі —
ведаю гэта —
не пра джынсы, дыска ці долар...
Ты ўсмешкай сваёй асвятляла планету,
на што прэзідэнт ваш
ніколі не здольны...

Пагрозліва век наш
цэліцца зверху —
нейтронны,
касмічны,
крылатаракетны...
А сэрца дзяўчынкі прагла даверу,
які б паяднаў усе кантыненты,
людзей,
што жывуць у Нью-Йорку і Рыме
і ў вёсцы маёй, дзе лясы і палі.
Каб так сябраваць вам, людзі,
бы ў Крыме,

там, у Артэку, дзецям Зямлі.
Выйшла дзяўчынка з жыццёвага віру,
дзе яшчэ многа зла і маны.
Ляціць яе ўсмешка
голубам міру
па-над планетай
і зданню вайны.



Патрон —
рыфмуецца нейтрон...
Хто думаў —
ад патрона
шлях будзе
да нейтроннай?..
Зажмурся,
муж вучоны,
хто аўтар гэтай бомбы,
прайдзіся шляхам тым:
там гільзамі, асколкамі
засеян шар зямны...
Зямная абалонка —
пажараў шызы дым...
Няўжо не здрыганешся
ад гора і бяды?

Як шарыку надзьмутаму,
Зямлі дазволіш ты
зрабіць апошні ўздых
між чорнай нематы?..

## ТРЫСЦІНКА ЗЯМНОГА БОЛЮ

*Лірычны маналог*

Праз сорак гадоў да мяне перайшла пахавальная дзядзькі Міколы, малодшага брата майго бацькі.

1

Перайшла пахаванка...
Да мяне...
Да мяне,
што не бачыў вайны
(Хоць не раз
ад яе і мае
узрываліся сны).
Перайшла ад бабулі
і ад дзядзькоў —
вецер носіць імёны
маіх сваякоў...

Бабка Наста...
Мой бацька Іван...
Дзядзькі мае —
Юзік, Алесь,
Канстанцін...
Перад вамі —
я ўвесь...
Перад вашымі ранамі,
перад вашымі шрамамі —
іх памяць не згладзіць
за тысячу год...
Вы жылі за сябе
(Вам выпала шчасце),
Вы жылі
за *яго*...
Не стала і вас...
Мой настаў час
жыць за вас...

2

З перапіскі з сябрам маленства, які жыве ў Калінінградскай вобласці.

*З майго ліста...*

«Ці сніцца табе
хутар Польны?
Калосіцца сёння
поле —

хаджу праз яго
на Нёман.
Помніш бабулю Насту
і сад у чырвоных вішнях?
Буйныя вішні ў далонях бабулі...
І слёзы яе —
як гэтыя вішні...
Вішні мы бралі з бабуліных рук,
са слязамі яе
не ведалі,
што рабіць...
Толькі адно паўтаралі:
«Не плачце...
Мы падрасцем —
Канька-Гарбунка забрытаем —
любімы наш конік маленства!
Памчымся ў далёкія далі —
і знойдзем,
мы знойдзем
*яго...»*

### 3

Я прызываўся на тэрміновую службу з таго ж райваенкамата, што і дзядзька Мікола на фронт,— Стаўбцоўскага...

...Стаю навабранцам
стрыжаным...

Разам з усімі...
Вось-вось павязуць цягнікі
нас —
памахаюць галінкай,
як маці рукою,
бярозы,
          асіны...
А мне ўсё здаецца —
гэта не я,
а *ты*...
Стаю ў шарэнзе
на той жа зямлі,
на месцы тым...
І адчуванне —
нібыта чакаюць мяне
франты...
І думка:
«А што,
          калі раптам?..
Ці змог бы я так?»

Ну, вось і каманда:
«Ма-арш!»
Сэрца тахкае —
                    «Так! Так!»
нагам у такт...

## 4

...Загінуў 11 красавіка 1945 года.
*З пахавальнай дзядзькі Міколы*

Жыву...
Жыць няпроста...
Пачынаю з твайго
узросту.
Дваццаць восем...—
гукнула зязюля,
і паставіла кропку
куля.

Не дайшоў...
Аднаго толькі кроку
не хапіла —
пілотка ў аблокі!..
Як жа вы падкасіліся,
ногі,
за хвіліну
да Дня Перамогі?

Я тым крокам
ступаю,
ступаю...
Нараджаюся і паміраю...
Паўтараю яго бясконца —
з узыходу
да захаду сонца.

І хвілінаю той
я жыву за цябе —
іду ў бой...

5

...Пахаваны: сяло Трутэнаў,
12 км на поўнач ад Кенігсберга...
*З пахавальнай дзядзькі*

З ліста сябра:
«...Трутэнаў —
Мядзведзеўка сёння...

І абеліск,
якіх шмат
на радзіннай зямлі...
І братняя,
над якою стаю я,
душу апякае маю.
І я не пляменнік,
здаецца,
а брат —
не толькі
*яму*,
ўсім палёгшым братам,
што спяць
у зямных курганах...»

6

У амерыканскім штаце Нью-Джэрсі многія гады жыў нейкі Джон Аўджэй — ён жа Іван Аўдзей, які ў перыяд фашысцкай акупацыі быў «мэрам» горада Стоўбцы. Па загаду Аўдзея былі знішчаны сотні жыхароў Стоўбцаў.

*З газет*

Я пачну не са здрадніка...
Я пачну —
з яго брата:
на рагу ў гарадку
у садку была хата.
Быццам плот не высокі,
быццам хата, як хата.
Але людзі цураліся
родзіча-ката.
Вечна жыў тут адзін —
ані жонкі, дзяцей.
І далі яму імя
«Няшчасны Аўдзей».
Гэта мо шкадаванне —
горш за катаванне.
Гэта страшная,
страшная
кара,
калі нават права
не маеш на мару,

што брату
даруюць.
Забудуць,
адпусцяцца
людзі...

Так і счэзнуў...
А калі паміраў,
сказаў:
«Я пажыў бы яшчэ,
каб не брат...»

7

Пасля выкрыцця нацысцкага памагатага міністэрства юстыцыі ЗША прапанавала Аўдзею пакінуць Амерыку.

У лютым 1984 года Аўдзей выехаў у Заходнюю Германію.

*З газет*

Раз'язджаеш,
як сваццця тая,
па свеце,
з той розніцай,
што прымусова...
Сасватаны ты
навекі са смерцем —
такім, як і сам.
Хоць доўга,

але часова
прытулак даваў
«дзядзька Сэм».
На месцы яго,
ды яго мне ўладу —
даўно б я каленкам
паддаў табе ззаду...
Табе,
«землячку»,
што без роду і дому...
Буяй над табою
бур'ян ды дзядоўнік,
і то не з радзіннай,
не з роднай зямелькі,
а з той,
чужыннай,
скуль шлях табе
толькі адзіны —
у пельку...

Табе шле гэты праклён
з-пад абеліска
*ён*,
мой дзядзька,
яшчэ — мой родны раён...
На ўзгорку,
у цэнтры яго гарадка
ёсць помнік
і стэлы з імёнамі...

Там Вечны агонь
б'ецца сэрцамі тых,
хто ўпаў на зямлі раёна...

У Бухенвальдзе,
Хатыні
стаў я,
на Піскароўскім блакадным...
Там сеялі смерць
масцітыя каты...
А як зразумець
корань здрады?
Адкуль вырастае?
Дзе гэтае поле?
Крыніца,
што поіць
яго?
Няма!
Не было іх ніколі!
Ёсць проста пухліна
на целе зямлі —
яе вырываю з тым коранем...

8

Над брацкай магілай, дзе пахаваны мой дзядзька Мікола.

Ну, вось і сустрэча...
Праз час і праз далі.

Маўчым...
Ты
    і я...
А душа спавядаецца...

Жыву за цябе...
У свеце маім —
ты цавер —
                не лягчэй,
хоць груз і не гне так плячэй,
ды ціcне ўнутры, з грудзей:
душа ў наступленні
штодзень...
За праўду, сумленне
іду я ў бой,
дакладней, не я адзін,—
мы з табой.
Ідзём разам з ротай,
а больш — з цэлым фронтам.
Маленькае зло
і вялікае зло
пазіцыі —
                бачыш? —
здало...

Перамогі нашай
паходня свеціць
на ўсіх кантынентах,
ва ўсім белым свеце...

На землях далёкіх
у бронзе і камені
пасталі Іваны,
Алёшы
вякамі...
Былінную сілу
душы іх зачэрпаў
герой маіх дзён —
Коля Чэпік...

І так будзе вечна,
так будзе заўсёды...
Атожылкі мы
высокага дрэва —
народа.

# ЗМЕСТ

ПРАДЧУВАННЕ МЕЛОДЫІ

## РОСЧЫРК БЛІСКАВІЦЫ

**Хвалей Я.**

Х30 Зялёны прамень аеру: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1987.—86 с.: іл.

Новы зборнік Яўгена Хвалея — гэта споведзь сучасніка перад часам, жыццём, народам. З першавытокаў — родных крыніц, над якімі, як сувязь зямлі і неба, расце зялёны прамень аеру, лірычны герой жадае наталіць духоўную смагу, каб па-новаму глянуць на свет, на сябе ў гэтым свеце і на тых, хто жыве побач.

Раздзелы «Вечны шолах лісця», «Прадчуванне мелодыі», «Росчырк бліскавіцы» аб'ядноўвае святое пачуццё малой і вялікай Радзімы.

**Х $\frac{4702120200-004}{М 302(05)-87}$ 63—87** **ББК 84Бел7**



*Евгений Иванович Хвалей*

**ЗЕЛЕНЫЙ ЛУЧ АИРА**

Стихи

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *М. М. Мятліцкі.* Мастак *Р. П. Сіплевіч.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Т. В. Трубач.*

ІБ № 2654

Здадзена ў набор 24.06.86. Падп. да друку 21.11.86. АТ 21427. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,75. Ум. фарб.-адб. 2,94. Ул.-выд. арк. 2,81. Тыраж 2000 экз. Зак. 2595. Цана 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

